# БЕЛАРУСКІ

# НАСТОЛЬНЫ ПЕРАКІДНЫ

# КАЛЯНДАР

# НА

# 2011 ГОД

**(на матэрыяле Гродзеншчыны)**

Складальнік
Аляксей Пяткевіч

Рэдактар

2010.

**Студзень**
**1**
**субота**

**З Новым Годам**

70 гадоў з дня нараджэння **Віталя Крамко,** беларускага гаспадарчага дзеяча, заслужанага работніка сельскай гаспадаркі Беларусі, Героя Беларусі. З в. Беражна (Карэліцкі р-н). Памёр у 2009 г.

70 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Ламана**, беларускага вучонага ў галіне батанікі, доктара біялагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. З в. Загор’е (Карэліцкі р-н).

**Студзень**
**2**
**нядзеля**

80 гадоў з дня нараджэння **Івана Дзяшко**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта Гродзенскага універсітэта імя Я.Купалы. З в. Плюскаўцы (Бераставіцкі р-н). Памёр у 1998 г.

70 гадоў з дня нараджэння **Паўла Савоські**, беларускага пісьменніка. З в. Зарудзічы (Смаргонскі р-н).

**Студзень**
**3**
**панядзелак**

480 гадоў таму назад **Слонім** атрымаў Магдэбургскае права.

85 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Ліпеня**, беларускага скульптара. Жыў у Гродне з 1950 г. Памёр у 2006 г.

**Студзень**
**4**
**аўторак**

420 гадоў з дня атрымання герба горадам **Слонімам**.

185 гадоў з дня нараджэння **Рамуальда Траўгута**, аднаго з кіраўнікоў паўстання супраць Расіі ў 1863 – 1864 гг. Скончыў Свіслацкую гімназію. Загінуў у 1864 г.

80 гадоў з дня нараджэння **Івана Крамко**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук. З в. Беражна (Карэліцкі р-н).

**Студзень**
**5**
**серада**

50 гадоў з дня нараджэння **Тадэвуша Кручкоўскага**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. з в. Яскулды (Бераставіцкі р-н).

**Студзень**
**6**
**чацвер**

85 гадоў з дня выхаду ў **Гродне** літаратурнага альманаха “Зарница”, выпушчанага рускім дабрачынным таварыствам.

75 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Каспяровіча**, беларускага спартыўнага педагога, заслужанага трэнера Беларусі. З Карэлічаў.

**Студзень**
**7**
**пятніца**

**Нараджэнне Хрыстова.**
**Каляды (праваслаўныя).**

**Студзень**
**8**
**субота**

165 гадоў таму назад францысканскі касцёл у **Навагрудку** пераўтвораны ў Мікалаеўскую царкву.

**Студзень**
**9**
**нядзеля**

395 гадоў з дня правядзення ў **Навагрудку** публічнага дыспуту езуітаў з пратэстантамі.

70 гадоў з дня нараджэння **Валянціны Ададуравай**, беларускай паэткі, педагога. З в. Хадзявічы (Слонімскі р-н). Памерла ў 1995 г.

**Студзень**
**10**
**панядзелак**

385 гадоў таму назад заснаваны Хрыстафорам Весялоўскім драўляны касцёл у в. **Квасоўка** (Гродзенскі р-н).

**Студзень**
**11**
**аўторак**

10 стагоддзяў таму назад былі змайстраваны прылады пісьма – “пісалы”, што знойдзены археолагамі ў культурных слаях гарадзішча **Ваўкавыска**.

90 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Бялова**, заслужанага артыста Беларусі. У 1948 – 1956 гг. – у Слоніме, кіраваў гарадскім тэатральным калектывам, выступаў у спектаклях. Памёр у 1985 г.

**Студзень**
**12**
**серада**

60 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Зайца**, беларускага гісторыка, археолага, кандыдата гістарычных навук. З Ліды.

**Студзень**
**13**
**чацвер**

370 гадоў таму назад **Слонім** атрымаў ад вялікага князя Уладзіслава прывілей на будаўніцтва рынка.

**Студзень**
**14**
**пятніца**

95 гадоў з дня нараджэння **Уладзіслава Чарняўскага**, беларускага каталіцкага духоўніка, перакладчыка. З в. Амбружына (Ашмянскі р-н). Памёр у 2001 г.

**Студзень**
**15**
**субота**

150 гадоў таму назад пабудавана Свята-Успенская царква ў в. **Дабраволя** (Свіслацкі р-н).

**Студзень**
**16**
**нядзеля**

465 гадоў таму назад **Астравец** атрымаў статус мястэчка.

**Студзень**
**17**
**панядзелак**

70 гадоў з дня нараджэння **Аркадзя Качана**, беларускага вучонага ў галіне электраэнергіі, доктара тэхнічных навук, прафесара. З в. Вірышча (Карэліцкі р-н).

70 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Мацкевіча**, беларускага тэатральнага рэжысёра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. З в. Старое сяло (Зэльвенскі р-н).

60 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Рэмеза**, рускага вучонага ў галіне тэрапіі, кандыдата медыцынскіх навук. З в. Пруд (Дзятлаўскі р-н).

**Студзень**
**18**
**аўторак**

115 гадоў з дня нараджэння **Івана Шмыгі**, савецкага вайскоўца, генерал-лейтэнанта. З в. Дабраволя (Свіслацкі р-н). Памёр у 1978 г.

**Студзень**
**19**
**серада**

75 гадоў з дня нараджэння **Пятра Савіцкага,** беларускага спартыўнага педагога, заслужанага трэнера СССР. Працаваў у Гродне з 1978 г. Памёр у 1997 г.

60 гадоў з дня нараджэння **Тацяны Аўтуховіч**, беларускага літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. З Гродна.

**Студзень**
**20**
**чацвер**

120 гадоў з дня нараджэння **Фабіяна Ярэміча**, беларускага грамадскага і культурнага дзеяча. З в. Дуляўцы (Ваўкавыскі р-н). Памёр у 1958 г.

**Студзень**
**21**
**пятніца**

70 гадоў з дня нараджэння **Эдуарда Міхневіча**, беларускага вучонага ў галіне гідратэхнікі і воднай гаспадаркі, доктара тэхнічных навук, прафесара. З в. Чаркесы (Іўеўскі р-н).

60 гадоў з дня нараджэння **Ганны Радзько**, беларускай спявачкі, заслужанай артысткі Беларусі. З в. Банцавічы (Лідскі р-н).

**Студзень**
**22**
**субота**

220 гадоў таму назад пачаў дзейнічаць у **Дзярэчыне** (Зэльвенскі р-н) прыдворны тэатр Аляксандра Сапегі.

**Студзень**
**23**
**нядзеля**

620 гадоў таму назад мяст. **Варняны** (Астравецкі р-н) упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах.

**Студзень**
**24**
**панядзелак**

305 гадоў таму назад пачаў дзейнічаць у **Гродне** манетны двор.

**Студзень**
**25**
**аўторак**

50 гадоў таму назад створаны ў **Лідзе** ансамбль песні і танца “Лідчанка” (з 1970 г. – званне народнага).

**Студзень**
**26**
**серада**

80 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Волкава**, беларускага вучонага ў галіне тэрапіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара Гродзенскага медуніверсітэта.

**Студзень**
**27**
**чацвер**

195 гадоў з дня нараджэння **Апалінарыя Красоўскага**, беларускага архітэктара, педагога, прафесара. З в. Каценавічы (Астравецкі р-н). Памёр у 1875 г.

125 гадоў з дня нараджэння **Васіля Дружчыца**, беларускага гісторыка, педагога, прафесара. Скончыў духоўную вучэльню ў Жыровічах (Слонімскі р-н). Загінуў у 1937 г.

**Студзень**
**28**
**пятніца**

385 гадоў таму назад «Стефан Горностаевич, діакон рукою власною» зрабіў запіс у «Минеи месячной» XV ст., якая захоўвалася ў **Жыровіцкім** манастыры (Слонімскі р-н).

**Студзень**
**29**
**субота**

475 гадоў з дня запісу на беларускай мове, зробленага “у Вилни”, які сведчыць, што Шчасны Янавіч Кеўліч прадае свой “отчизны двор **Астравец**”.

**Студзень**
**30**
**нядзеля**

90 гадоў з дня нараджэння **Івана Шамякіна**, беларускага пісьменніка, народнага пісьменніка Беларусі. У 1940 г. жыў у мяст. Рось (Ваўкавыскі р-н). Памёр у 2004 г.

70 гадоў з дня нараджэння **Ларысы Данілавай**, беларускага вучонага ў галіне эндакрыналогіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара. З мяст. Поразава (Свіслацкі р-н).

50 гадоў з дня нараджэння **Марыі Якалцэвіч**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, дацэнта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. З в. Дуляўшчына (Мастоўскі р-н).

**Студзень**
**31**
**панядзелак**

525 гадоў таму назад **Беліца** (Лідскі р-н) набыла статус мястэчка.

**Люты**
**1**
**аўторак**

80 гадоў з дня нараджэння **Яраслава Жыхара**, беларускага эканаміста, кандыдата эканамічных навук, дацэнта. У 1957 – 1960 гг. выкладаў у сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Лідзе.

**Люты**
**2**
**серада**

365 гадоў таму назад адбыліся ў **Дзярэчыне** (Зэльвенскі р-н) першыя спектаклі школьнага тэатра езуітаў.

**Люты**
**3**
**чацвер**

75 гадоў з дня нараджэння **Вацлава Война**, рускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара. З в. Даўкшаны (Воранаўскі р-н).

**Люты**
**4**
**пятніца**

265 гадоў з дня нараджэння **Тадэвуша Касцюшкі**, кіраўніка паўстання 1794 г., якое ахапіла і Гродзеншчыну.

135 гадоў таму назад пачата будаўніцтва царквы Раства Багародзіцы ў мяст. **Наваельня** (Дзятлаўскі р-н).

**Люты**
**5**
**субота**

100 гадоў таму назад у **Гродне** пастаўлены спектакль па п’есе К.Каганца “Модны шляхцюк”.

**Люты**
**6**
**нядзеля**

90 гадоў з дня выхаду ў **Гродне** газеты-ўлёткі “Poranek”, прысвечанай плебісцыту па Горнай Сілезіі і неабходнасці яе далучэння да Польшчы.

**Люты**
**7**
**панядзелак**

465 гадоў з дня нараджэння **Фёдара Еўлашоўскага**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, пісьменніка. З 1566 г. – у Навагрудку. Памёр у 1619 г.

120 гадоў з дня нараджэння **Марыі Міцкевіч** (Каменскай), беларускага педагога, жонкі Якуба Коласа. З Ашмянаў. Памерла ў 1945 г.

**Люты**
**8**
**аўторак**

90 гадоў таму назад створана Таварыства беларускай школы – культурна-асветная арганізацыя Заходняй Беларусі. Мела акруговыя ўправы ў **Гродне**, **Навагрудку**, **Лідзе**, **Слоніме**, **Свіслачы** і інш.

**Люты**
**9**
**серада**

235 гадоў таму назад пачаў выходзіць у **Гродне** гаспадарчы каляндар (“Kalendarz Gospodarski…”) Т.Дубіткоўскага.

70 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Жыгалы**, беларускага гаспадарчага дзеяча, заслужанага работніка прамысловасці Беларусі. З в. Кміцянка (Навагрудскі р-н).

**Люты**
**10**
**чацвер**

70 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Спаса**, беларускага вучонага ў галіне анестэзіялогіі, рэаніматалогіі і інтэнсіўнай тэрапіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара Гродзенскага медуніверсітэта. З Гродна.

**Люты**
**11**
**пятніца**

95 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Макухі**, беларускага вучонага ў галіне аналітычнай хіміі, кандыдата фармацэўтычных навук, дацэнта. Працаваў у Гродзенскім медінстытуце з 1961 г. Памёр у 1992 г.

**Люты**
**12**
**субота**

255 гадоў таму назад адкрыта калегія піяраў у **Лідзе**.

60 гадоў з дня нараджэння **Алега Семака**, беларускага сацыёлага, філосафа, доктара філасофскіх навук. З мяст. Лунна (Мастоўскі р-н).

**Люты**
**13**
**нядзеля**

205 гадоў з дня нараджэння **Юльяна Корсака**, польскага паэта, перакладчыка. З Слоніма. Памёр у 1855 г.

70 гадоў з дня нараджэння **Ларысы Евец**, беларускага вучонага ў галіне педыятрыі, доктара медыцынскіх навук, прафесара Гродзенскага медуніверсітэта.

70 гадоў з дня нараджэння **Багдана Дзіткі**, польскага пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Польшчы. З Гродна.

**Люты**
**14**
**панядзелак**

80 гадоў з дня нараджжння **Івана Булдыка**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, дацэнта. З в. Церабостынь (Карэліцкі р-н).

70 гадоў з дня нараджэння **Зінаіды Валехі**, беларускага гаспадарчага дзеяча, заслужанага работніка прамысловасці Беларусі. З в. Вангі (Лідскі р-н).

**Люты**
**15**
**аўторак**

75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Дзенісевіча**, беларускага вучонага ў галіне заатэхніі, доктара сельскагаспадарчых навук, прафесара. З в. Заполле (Мастоўскі р-н).

**Люты**
**16**
**серада**

110 гадоў з дня нараджэння **Мар'яна Богуша-Шышкі**, польскага мастака. З маёнт. Трокенікі (Астравецкі р-н). Памёр у 1995 г.

**Люты**
**17**
**чацвер**

70 гадоў з дня нараджэння **Галіны Качалавай**, беларускай спявачкі, музычнага педагога, заслужанага работніка культуры Беларусі. З 1960 г. – у Гродне.

60 гадоў з дня нараджэння **Віктара Сурмача**, кандыдата сельскагаспадарчых навук, дацэнта Гродзенскага аграрнага універсітэта. З в. Дольныя Самуйлавічы (Мастоўскі р-н).

**Люты**
**18**
**пятніца**

80 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Богуша**, беларускага вучонага ў галіне ветэрынарыі, доктара ветэрынарных навук, прафесара. З Карэлічаў.

**Люты**
**19**
**субота**

40 гадоў таму назад створана ў **Гродне** абласная арганізацыя Саюза мастакоў Беларусі.

**Люты**
**20**
**нядзеля**

195 гадоў таму назад у **Зэльве** пачалі рэгулярна праводзіцца кірмашы.

**Люты**
**21**
**панядзелак**

**Міжнародны дзень роднай мовы**

**Люты**
**22**
**аўторак**

570 гадоў таму назад **Астрына** (Шчучынскі р-н) упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах.

**Люты**
**23**
**серада**

85 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Бадакова**, беларускага філосафа, педагога, кандыдата філасофскіх навук, прафесара. Працаваў рэктарам Гродзенскага педінстытута (універсітэта) ў 1973 – 1994 гг.

70 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Ражко**, беларускага лекара, заслужанага работніка медыцыны Беларусі, выпускніка Гродзенскага медінстытута. Працаваў з 1966 г. у Астравецкім р-не, з 1986 г. – у Гродне.

**Люты**
**24**
**чацвер**

75 гадоў з дня нараджэння **Георгія Лабко**, беларускага вучонага ў галіне генетычнай папуляцыі пухлінных клетак, кандыдата медыцынскіх навук. З в. Дакудава (Лідскі р-н). Памёр у 1997 г.

**Люты**
**25**
**пятніца**

335 гадоў таму назад заснаваны Андрэем Катовічам драўляны касцёл і манастыр кармелітаў босых у **Гродне**.

**Люты**
**26**
**субота**

190 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Гінтаўта-Дзевялтоўскага**, удзельніка паўстання супраць Расіі ў 1863 – 64 гг., каталіцкага мітрапаліта. Дзейнічаў у Гродне ў 1853 – 1871 гг. Памёр у 1889 г.

100 гадоў з дня нараджэння **Льва Гарошкі**, беларускага грамадска-культурнага і рэлігійна-асветнага дзеяча, архімандрыта. З в. Трашчычы (Карэліцкі р-н). Памёр у 1977 г.

**Люты**
**27**
**нядзеля**

265 гадоў таму назад пабудаваны ў **Свіслачы** драўляны касцёл.

**Люты**
**28**
**панядзелак**

50 гадоў з дня нараджэння **Валерыя Беняша-Крыўца**, беларускага матэматыка, доктара фізічна-матэматычных навук. З Навагрудка.

**Сакавік**
**1**
**аўторак**

70 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Спорніка**, беларускага фізіка, доктара фізічна-матэматычных навук, прафесара. З 1979 г. – у Гродзенскім універсітэце. Памёр у 2008 г.

**Сакавік**
**2**
**серада**

105 гадоў з дня нараджэння **Барыса Дземідовіча**, рускага матэматыка, доктара фізічна-матэматычных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Расіі. З Навагрудка. Памёр у 1977 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Ткачука**, працаўніка сельскай гаспадаркі Беларусі, Героя сацыялістычнай працы. З в. Войкалы (Шчучынскі р-н).

**Сакавік**
**3**
**чацвер**

70 гадоў з дня нараджэння **Ірыны Мірачыцкай**, беларускага эканаміста, педагога, кандыдата эканамічных навук, прафесара. З в. Скорычы (Карэліцкі р-н).

**Сакавік**
**4**
**пятніца**

635 гадоў таму назад **Гародня** перайшла пад уладу князя Вітаўта.

**Сакавік**
**5**
**субота**

60 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Байчорава**, беларускага заолага, доктара біялагічных навук. З Гродна.

**Сакавік**
**6**
**нядзеля**

485 гадоў таму назад зроблены фундушовы запіс (на пергаменце) аб падтрымцы прыходскага касцёла ў **Смаргоні**.

**Сакавік**
**7**
**панядзелак**

70 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Пяшко**, беларускага вучонага ў галіне тэрапіі, кандыдата медыцынскіх навук. З в. Малая Бобрына (Карэліцкі р-н). Памёр у 1995 г.

60 гадоў з дня нараджэння **Васіля Апановіча**, віцэ-адмірала расійскага флоту. З в. Клепачы (Слонімскі р-н).

**Сакавік**
**8**
**аўторак**

**Дзень жанчыны**

85 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Піскуна**, заслужанага шафёра Беларусі, Героя сацыялістычнай працы. З в. Капцёўка (Гродзенскі р-н).

**Сакавік**
**9**
**серада**

420 гадоў таму назад у пісьмовых краінах з'яўляюцца звесткі пра забудову на берагах Гараднічанкі ў **Гародні**.

**Сакавік**
**10**
**чацвер**

135 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Аўгусціновіча**, дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Расіі. З в. Калпяя (Смаргонскі р-н). Памёр у 1950 г.

85 гадоў з дня нараджэння **Васіля Супруна**, беларускага паэта, краязнаўца. З в. Глоўсевічы (Слонімскі р-н). Памёр у 2007 г.

**Сакавік**
**11**
**пятніца**

100 гадоў з дня нараджэння **Аркадзя Мігдала**, савецкага фізіка, акадэміка Акадэміі навук СССР. З Ліды. Памёр у 1991 г.

**Сакавік**
**12**
**субота**

25 гадоў з дня адкрыцця ў **Гродне** гістарычна-культурнага клуба "Паходня".

**Сакавік**
**13**
**нядзеля**

685 гадоў таму назад адбыўся паход войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з князем **Давыдам Гарадзенскім** на Брандэнрбург і здрадніцкае забойства князя падкупленым рыцарам.

**Сакавік**
**14**
**панядзелак**

80 гадоў з дня нараджэння **Паўла Місько**, беларускага пісьменніка. Жыў і працаваў у Гродне ў 1959 – 1964 гг.

**Сакавік**
**15**
**аўторак**

90 гадоў з дня нараджэння **Васіля Мялешкі**, беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара. У 1921 – 1940 гг. жыў у в. Мяльканавічы (Слонімскі р-н).

75 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Бацвінкова**, беларускага вучонага ў галіне хірургіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара Гродзенскага медуніверсітэта, заслужанага ўрача Беларусі.

**Сакавік**
**16**
**серада**

95 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Нечыпарэнкі**, беларускага вучонага ў галіне ўралогіі, кандыдата медыцынскіх навук, дацэнта. У Гродзенскім медінстытуце – з 1968 г. Памёр у 1980 г.

**Сакавік**
**17**
**чацвер**

70 гадоў з дня нараджэння **Маі Зяньковай**, беларускага педагога, дацэнта. У Гродзенскім універсітэце – з 1966 г.

**Сакавік**
**18**
**пятніца**

90 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Палубінскага**, беларускага педагога, краязнаўца, заслужанага работніка культуры Беларусі. Працаваў у Бераставіцкім, Свіслацкім раёнах, Свіслачы.

**Сакавік**
**19**
**субота**

380 гадоў таму назад падрыхтаваны інвентар касцёла ў в. **Жырмуны** (Воранаўскі р-н).

**Сакавік**
**20**
**нядзеля**

115 гадоў з дня нараджэння **Майсея Кульбака**, яўрэйскага пісьменніка і культурага дзеяча. З Смаргоні. Загінуў у 1937 г.

**Сакавік**
**21**
**панядзелак**

225 гадоў таму назад пабудаваны ў мяст. **Дзярэчын** (Зэльвенскі р-н) палац у стылі класіцызму.

**Сакавік**
**22**
**аўторак**

100 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Багданчука**, удзельніка вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. З в. Касцяні (Слонімскі р-н). Загінуў у 1933 г.

**Сакавік**
**23**
**серада**

80 гадоў з дня нараджэння **Ежы Крыштаня**, польскага пісьменніка. Жыў у Гродне ў 30-я гг. XX ст. Памёр у 1982 г.

**Сакавік**
**24**
**чацвер**

500 гадоў таму назад в. **Малое Мажэйкава** (Лідскі р-н) упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах.

**Сакавік**
**25**
**пятніца**

90 гадоў таму назад адкрылася ў **Навагрудку** беларуская гімназія.

**Сакавік**
**26**
**субота**

80 гадоў з дня нараджэння **Мечыслава Яцкевіча**, польскага літаратуразнаўца, доктара гуманітарных навук габілітаванага, заслужанага дзеяча культуры Польшчы. З маёнт. Бокшышкі (Іўеўскі р-н).

**Сакавік**
**27**
**нядзеля**

545 гадоў таму назад дзяк Яўстафі перапісаў Трыёдзь для царквы св. Багародзіцы ў **Гродне**.

**Сакавік**
**28**
**панядзелак**

105 гадоў з дня нараджэння **Барыса Кляпацкага**, беларускага вучонага ў галіне хірургіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара. Працаваў у Гродзенскім мядінстытуце ў 1960 – 1966 гг. Памёр у 1966 г.

**Сакавік**
**29**
**аўторак**

30 гадоў таму назад пабудаваны ў **Гродне** мікрараён Фарты-1.

**Сакавік**
**30**
**серада**

85 гадоў з дня нараджэння **Веры Баканскай**, беларускага вучонага ў галіне паталагічнай фізіялогіі, доктара медыцынскіх навук. У 1960 – 1994 гг. працавала ў Гродзенскім медінстытуце.

80 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Пяткевіча**, беларускага літаратуразнаўца, культуролага, кандыдата філалагічных навук, прафесара. З 1957 г. – у Гродзенскім педінстытуце (універсітэце).

**Сакавік**
**31**
**чацвер**

325 гадоў таму назад у мяст. **Германішкі** (Астравецкі р-н) пабудаваны касцёл св. Тройцы.

**Красавік**
**1**
**пятніца**

80 гадоў з дня нараджэння **Барыса Хіневіча**, беларускага педагога, краязнаўца. Настаўнічаў у Жодзішках Смаргонскага р-на, у Смаргоні ў 1959 – 1997 гг. Памёр у 1997 г.

**Красавік**
**2**
**субота**

70 гадоў з дня нараджэння **Наталі Цар**, кандыдата медыцынскіх навук, дацэнта. У Гродзенскім універсітэце – з 1970 г.

20 гадоў з дня ўрачыстага адкрыцця ў Гродзенскім універсітэце факультэта беларускай філалогіі і культуры.

**Красавік**
**3**
**нядзеля**

270 гадоў таму назад пабудаваны ў **Вялікай Бераставіцы** касцёл, пераўтвораны ў 1867 г. у царкву св. Успення.

**Красавік**
**4**
**панядзелак**

120 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Варонкі**, беларускага палітыка. Дзейнічаў у Гродне ў 1918 – 1919 гг. Памёр у 1952 г.

115 гадоў з дня нараджэння **Андрэя Пракапчука**, беларускага вучонага ў галіне дэрматавенералогіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі. З в. Чамяры (Слонімскі р-н). Памёр у 1970 г.

**Красавік**
**5**
**аўторак**

75 гадоў з дня нараджэння **Рамана Тармолы**, беларускага паэта. З мяст. Мір (Карэліцкі р-н).

**Красавік**
**6**
**серада**

235 гадоў таму назад завершана будаўніцтва палацава-паркавага ансамбля ў в. **Шчорсы** (Навагрудскі р-н).

**Красавік**
**7**
**чацвер**

50 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Рудзевіча**, беларускага спевака, заслужанага артыста Беларусі. З Ліды.

**Красавік**
**8**
**пятніца**

70 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Аляшкевіча**, беларускага вучонага ў галіне гігіены, доктара медыцынскіх навук, прафесара. З мяст. Любча (Навагрудскі р-н).

**Красавік**
**9**
**субота**

90 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Царова**, беларускага артыста тэатра, заслужанага артыста Беларусі. Працаваў у Гродзенскім драмтэатры з 1953 г. Памёр у 1978 г.

**Красавік**
**10**
**нядзеля**

110 гадоў з дня нараджэння **Канстанціна Варановіча**, удзельніка вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. З Свіслачы. Загінуў у 1943 г.

80 гадоў з дня нараджэння **Івана Чыгрына**, беларускага літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук, паэта. З в. Чамяры (Слонімскі р-н). Памёр у 2006 г.

**Красавік**
**11**
**панядзелак**

110 гадоў таму назад у **Лідзе** адкрыта прыватная жаночая гімназія Навіцкіх.

**Красавік**
**12**
**аўторак**

75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Сап'яніка**, беларускага вучонага ў галіне электраэнергіі, доктара тэхнічных навук. З в. Лозкі (Навагрудскі р-н).

**Красавік**
**13**
**серада**

80 гадоў з дня нараджэння **Васіля Давыдзёнка**, беларускага архітэктара. Жыў і працаваў у Гродне з 1966 г. Памёр у 1992.

**Красавік**
**14**
**чацвер**

70 гадоў з дня нараджэння **Полі Раксы**, польскай артысткі тэатра і кіно. З Ліды.

**Красавік**
**15**
**пятніца**

100 гадоў з дня нараджэння **Васіля Каляды**, удзельніка вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. З в. Кальчыцы (Карэліцкі р-н). Памёр у 1998 г.

**Красавік**
**16**
**субота**

525 гадоў таму назад **Крэва** (Смаргонскі р-н) атрымала статус мястэчка.

**Красавік**
**17**
**нядзеля**

50 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Саўко**, беларускага мовазнаўца, кандыдата педагагічных навук, дацэнта. З в. Брольнікі (Навагрудскі р-н).

**Красавік**
**18**
**панядзелак**

130 гадоў з дня нараджэння **Янкі Журбы**, беларускага паэта. У 1914 – 1915 гг. настаўнічаў у Карэлічах. Памёр у 1964 г.
70 гадоў з дня нараджэння **Наталі Паўловіч**, беларускага біёлага, кандыдата біялагічных навук, прафесара Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы.

**Красавік**
**19**
**аўторак**

260 гадоў таму назад пабудаваны ў стылі беларускага барока палац у **Дзятлаве**.

**Красавік**
**20**
**серада**

345 гадоў з дня нараджэння **Крыштофа Завішы**, польскага пісьменніка. З в. Горка (Слонімскі р-н). Памёр у 1721 г.

**Красавік**
**21**
**чацвер**

90 гадоў з дня нараджэння **Наталі Селіванчык**, беларускага лекара, заслужанага ўрача Беларусі. Працавала ў Гродне ў 1945 – 1990 гг.

**Красавік**
**22**
**пятніца**

340 гадоў таму назад завершана будаўніцтва Свята-Успенскага сабора базыльянскага **Жыровіцкага** манастыра (Слонімскі р-н).

**Красавік**
**23**
**субота**

180 гадоў з дня нараджэння **Уладзіслава Борзабагатага**, удзельніка беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. З маёнт. Рутка (Навагрудскі р-н). Памёр у 1886 г.

70 гадоў з дня нараджэння **Барыса Сака**, заслужанага работніка сельскай гаспадаркі Беларусі. З в. Райца (Карэліцкі р-н).

**Красавік**
**24**
**нядзеля**

**Уваскрасенне Хрыстова**
**Вялікдзень**
**(праваслаўны і каталіцкі)**

70 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Сушкевіча**, беларускага мастака. Жыве і працуе ў Ваўкавыску.

**Красавік**
**25**
**панядзелак**

525 гадоў таму назад **Васілішкі** (Шчучынскі р-н) набылі статус мястэчка.

**Красавік**
**26**
**аўторак**

110 гадоў з дня нараджэння **Лазара Шайкоўскага**, дзеяча вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. З Гродна. Памёр у 1982 г.

60 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Хілюты**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. З в. Старынцы (Бераставіцкі р-н).

**Красавік**
**27**
**серада**

165 гадоў з дня нараджэння **Ігната Корвін-Мілеўскага**, беларускага мастака, калекцыянера, літаратара. З маёнт. Геранёны (Іўеўскі р-н), дзе жыў і працаваў. Памёр у 1926 г.

145 гадоў з дня нараджэння **Льва Бакста**, рускага і французскага мастака. З Гродна. Памёр у 1924 г.

50 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Макарэвіча**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук. З Ліды.

**Красавік**
**28**
**чацвер**

735 гадоў таму назад мяст. **Турэц** (Карэліцкі р-н) упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах.

**Красавік**
**29**
**пятніца**

70 гадоў таму назад Янка Купала наведаў **Гродна**.

**Красавік**
**30**
**субота**

100 гадоў таму назад на Гродзеншчыне дзейнічалі друкарні:
у Гродне – 11
Лідзе – 4
Слоніме – 4
Ваўкавыску – 1
Навагрудку – 1
Ашмянах – 1
Смаргоні – 1

**Май**
**1**
**нядзеля**

105 гадоў з дня нараджэння **Аляксандры Бергман**, беларускага і польскага гісторыка, удзельніцы вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. З Гродна. Памерла ў 2004 г.

80 гадоў з дня нараджэння **Алега Лойкі**, беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. З Слоніма. Памёр у 2008 г.

**Май**
**2**
**панядзелак**

60 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Солтана**, беларускага педагога, кандыдата педагагічных навук, дацэнта. З мяст. Мір (Карэліцкі р-н).

**Май**
**3**
**аўторак**

**Радаўніца**

50 гадоў з дня нараджэння **Яніны Пільнік**, беларускага дызайнера. З в. Путрышкі (Гродзенскі р-н).

**Май**
**4**
**серада**

70 гадоў з дня нараджэння **Ларысы Паваляевай**, беларускага музычнага педагога, заслужанай настаўніцы Беларусі. У Гродне – з 1967 г.

**Май**
**5**
**чацвер**

165 гадоў з дня нараджэння **Генрыка Сянкевіча**, польскага пісьменніка. У 1880-я гг. жыў у маёнт. Дубнікі (Астравецкі р-н). Памёр у 1916 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Фёдара Аляшкевіча**, беларускага вучонага ў галіне неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара. З в. Балотца (Навагрудскі р-н).

**Май**
**6**
**пятніца**

250 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Юндзіла**, беларускага вучонага ў галіне батанікі, доктара філасофіі і тэалогіі, педагога. З в. Ясянцы (Воранаўскі р-н). Памёр у 1847 г.

80 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Усціновіча**, беларускага вучонага ў галіне педыятрыі, кандыдата медыцынскіх навук, дацэнта. З Ліды.

**Май**
**7**
**субота**

70 гадоў з дня нараджэння **Лідзіі Лук'янавай**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, прафесара Гродзенскага медуніверсітэта.

**Май**
**8**
**нядзеля**

70 гадоў з дня нараджэння **Маі Цыбульскай**, польскай паэткі, літаратуразнаўца, доктара філалогіі. З Ліды.

**Май**
**9**
**панядзелак**

**Дзень перамогі СССР у вайне з гітлераўскай Германіяй.**

100 гадоў з дня адпраўлення калектыўнага віншавання сяброў Гродзенскага гуртка беларускай моладзі яго першаму старшыні Адаму Бычкоўскаму, студэнту Пецярбургскага універсітэта.

**Май**
**10**
**аўторак**

75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Каравая**, беларускага дзяржаўнага дзеяча, заслужанага юрыста Беларусі. З в. Міцкевічы (Смаргонскі р-н).

75 гадоў з дня нараджэння **Ядзвігі Рэкуць**, працаўніцы сельскай гаспадаркі Беларусі, Героя сацыялістычнай працы. З в. Студзенікі (Свіслацкі р-н).

70 гадоў з дня нараджэння **Алены Варонкі**, беларускага вучонага ў галіне анестэзіялогіі і рэаніматалогіі, кандыдата медыцынскіх навук, дацэнта. З в. Малюшычы (Карэліцкі р-н).

**Май**
**11**
**серада**

195 гадоў таму назад пабудавана царква св. Параскевы Пятніцы ў в. **Бершты** (Шчучынскі р-н).

**Май**
**12**
**чацвер**

70 гадоў з дня нараджэння **Восіпа Севяртокі**, туркменскага вучонага ў галіне батанікі, доктара біялагічных навук. З в. Семірэнкі (Мастоўскі р-н). Памёр у 1998 г.

80 гадоў з дня нараджэння **Вітольда Урбановіча**, польскага мастака, мастацкага педагога. З Ашмянаў.

**Май**
**13**
**пятніца**

515 гадоў таму назад пачаў дзейнічаць у **Гродне** магістрат – орган гарадскога самакіравання.

**Май**
**14**
**субота**

105 гадоў таму назад пачала выходзіць газета “Наша Ніва”, у якую пасылалі матэрыялы з Гродна, Навагрудка, Смаргоні, Слоніма, Свіслачы, Карэліч, Ашмянаў, з в. Няцеч, Фалькавічы, Дзітрыкі (Лідскі р-н), Германішкі (Воранаўскі р-н), Варняны, Гудагай

(Астравецкі р-н), Турэц, Мір (Карэліцкі р-н), Малыя Бакшты (Іўеўскі р-н), Кастровічы (Слонімскі р-н) і інш.

**Май**
**15**
**нядзеля**

95 гадоў з дня нараджэння **Ніны Тарас**, беларускай паэткі. З в. Заполле (Навагрудскі р-н). Памерла ў 2006 г.

**Май**
**16**
**панядзелак**

25 гадоў з дня адкрыцця ў **Гродне** музея Максіма Багдановіча.

**Май**
**17**
**аўторак**

700 гадоў таму назад адбыўся рабаўнічы паход войска крыжакаў на **Гарадзеншчыну**.

**Май**
**18**
**серада**

85 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Вырко**, заслужанага работніка сельскай гаспадаркі Беларусі, выпускніка Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута. З Карэлічаў.

**Май**
**19**
**чацвер**

115 гадоў таму назад пабудавана ў **Гродне** Свята-Уладзімірская царква.

**Май**
**20**
**пятніца**

70 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Петрыкевіча**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, дацэнта. З в. Пабрэззе (Навагрудскі р-н). Памёр у 1988 г.

**Май**
**21**
**субота**

110 гадоў таму назад узведзены мураваны будынак **Слонімскага** манастыра бенедыкцінак.

**Май**
**22**
**нядзеля**

370 гадоў таму назад мяст. **Астрына** (Шчучынскі р-н) атрымала права на самакіраванне і герб.

**Май**
**23**
**панядзелак**

250 гадоў з дня атрымання герба г.**Шчучынам**.
80 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Мацешы**, беларускага вучонага ў галіне неўрапаталогіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара Гродзенскага медуніверсітэта.
70 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Пупко**, беларускага дызайнера. З в. Нізяны (Ваўкавыскі р-н).

**Май**
**24**
**аўторак**

415 гадоў таму назад пачата ў **Гродне** будаўніцтва бернардынскага касцёла.

**Май**
**25**
**серада**

380 гадоў таму назад запоўнена кніга пратаколаў (на беларускай мове) “гродскага” суда ў **Лідзе**.

**Май**
**26**
**чацвер**

75 гадоў таму назад у **Гродне** адбылося масавае выступленне беспрацоўных.

**Май**
**27**
**пятніца**

125 гадоў таму назад пабудавана Свята-Пакроўская царква ў в. **Орля** (Шчучынскі р-н).

**Май**
**28**
**субота**

175 гадоў з дня нараджэння **Яна Карловіча**, беларускага і польскага этнографа, лінгвіста, музыказнаўца. Жыў у маёнт. Падзітва (Воранаўскі р-н) і Вішнева (Смаргонскі р-н). Памёр у 1903 г.
130 гадоў з дня нараджэння **Івана Луцкевіча**, беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, археолага, этнографа, мастацтвазнаўца. У 1911 г. наведваў Гродна, быў на спектаклі Гродзенскага гуртка беларускай моладзі.

75 гадоў з дня нараджэння **Эдуарда Вальчука**, беларускага вучонага ў галіне тэрапіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара. З Ліды.

**Май**
**29**
**нядзеля**

230 гадоў таму назад выдадзена ў **Гродне** на лацінскай мове двухтомная праца кіраўніка Гродзенскай медыцынскай акадэміі Ж.Жылібера “Флора Літвы”.

**Май**
**30**
**панядзелак**

340 гадоў таму назад **Гожа** (Гродзенскі р-н) атрымала статус мястэчка.

**Май**
**31**
**аўторак**

125 гадоў таму назад пабудавана ў стылі класіцызму Барысаглебская царква ў в. **Накрышкі** (Дзятлаўскі р-н).

**Чэрвень**
**1**
**серада**

100 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Марцінкевіча**, беларускага спартыўнага педагога, заслужанага трэнера Беларусі. З Гродна. Памёр у 1973 г.

100 гадоў з дня нараджэння **Якуба Міско**, беларускага журналіста, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. З в. Чамяры (Слонімскі р-н). Памёр у 1981 г.

70 гадоў з дня нараджэння **Віктара Грынкевіча**, беларускага педагога, кандыдата педагагічных навук, дацэнта. У Гродзенскім універсітэце – з 1988 г.

**Чэрвень**
**2**
**чацвер**

215 гадоў таму назад пабудавана ў стылі беларускага барока царква нараджэння Прасвятой Багародзіцы ў в. **Масаляны** (Бераставіцкі р-н).

**Чэрвень**
**3**
**пятніца**

225 гадоў з дня нараджэння **Канстанціна Тызенгаўза**, беларускага вучонага ў галіне арніталогіі. З мяст. Жалудок (Шчучынскі р-н). Памёр у 1853 г.

**Чэрвень**
**4**
**субота**

50 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Бейцюка**, кандыдата тэхнічных навук, дацэнта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. З мяст. Лунна (Мастоўскі р-н).

**Чэрвень**
**5**
**нядзеля**

220 гадоў з дня арганізацыі ў **Гродне** гарадскога канцэрта, які адбыўся ў рэзідэнцыі падкаморага Ф.Юндзіла.

165 гадоў з дня нараджэння **Антона Будзіловіча**, рускага філолага-славіста, доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта Расійскай Акадэміі навук. З в. Коматава (Гродзенскі р-н). Памёр у 1908 г.

100 гадоў з дня нараджэння **Адама Дасюкевіча**, беларускага грамадскага і культурнага дзеяча. З в. Копцевічы (Смаргонскі р-н). Загінуў у 1943 г.

**Чэрвень**
**6**
**панядзелак**

205 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Валовіча**, беларускага шляхецкага рэвалюцыянера, змагара з царызмам. З маёнт. Парэчча (Слонімскі р-н). Загінуў у 1833 г.

200 гадоў з дня нараджэння **Ягора Замыслоўскага**, рускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара. З Гродна. Памёр у 1896 г.

170 гадоў з дня нараджэння **Элізы Ажэшкі**, польскай пісьменніцы, культурнай дзяячкі Беларусі. З маёнт. Мількаўшчына (Гродзенскі р-н). З 1869 г. стала жыла ў Гродне. Памерла ў 1910 г.

**Чэрвень**
**7**
**аўторак**

240 гадоў таму назад пабудавана ў стылі беларускага барока сядзіба “Панямонь” на ўскраіне **Гродна**.

**Чэрвень**
**8**
**серада**

115 гадоў таму назад выдадзена ў **Гродне** паэма “Тарас на Парнасе” – адно з першых выданняў твора.

**Чэрвень**
**9**
**чацвер**

130 гадоў таму назад пабудавана царква Аляксандра Неўскага ў мяст. **Індура** (Гродзенскі р-н).

**Чэрвень**
**10**
**пятніца**

605 гадоў таму назад войска смаленскага князя Рыгора Святаслававіча спрабавала захапіць **Ліду**, але пацярпела паразу.

**Чэрвень**
**11**
**субота**

50 гадоў з дня нараджэння **Валерыя Жвалеўскага**, беларускага музыканта, музычнага педагога. З Гродна.

**Чэрвень**
**12**
**нядзеля**

610 гадоў таму назад мяст. **Нягневічы** (Навагрудскі р-н) упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах.

60 гадоў з дня нараджэння **Ларысы Верамейчык**, беларускага вучонага ў галіне аграхіміі, кандыдата сельскагаспадарчых навук, дацэнта. З Ашмянаў.

**Чэрвень**
**13**
**панядзелак**

620 гадоў таму назад адбылася вялікая аблога **Навагрудка** войскам магістра Тэўтонскага ордэна Конрада Валянрода.

**Чэрвень**
**14**
**аўторак**

180 гадоў таму назад створана ў **Свіслацкай** гімназіі тайнае таварыства "Заране".

**Чэрвень**
**15**
**серада**

135 гадоў з дня нараджэння **Лейба Іофе**, яўрэйскага пісьменніка. З Гродна. Памёр у 1948 г.

115 гадоў з дня нараджэння **Паўла Каравайчыка**, беларускага культурнага дзеяча, пісьменніка. З мяст. Любча (Навагрудскі р-н). Загінуў у 1937 г.

70 гадоў з дня нараджэння **Івана Котляра**, беларускага палітолага, кандыдата філасофскіх навук, прафесара. З в. Балотца (Навагрудскі р-н).

**Чэрвень**
**16**
**чацвер**

410 гадоў з дня напісання ў **Гродне** на беларускай мове копіі 2-х рашэнняў каралевы Ганны ад 1581 года па скаргах мяшчан Кляшчэляў на ўладальніка мясцовага маёнтка.

**Чэрвень**
**17**
**пятніца**

80 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Паўлава**, беларускага архітэктара. З 1975 г. – у Гродне.

**Чэрвень**
**18**
**субота**

100 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Шыдлоўскага**, беларускага культурнага дзеяча, кампазітара, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. З в. Мінкі (Смаргонскі р-н). Памёр у 2002 г.

**Чэрвень**
**19**
**нядзеля**

100 гадоў з дня нараджэння **Фёдара Фёдарава**, беларускага фізіка-тэарэтыка, доктара фізічна-матэматычных навук, акадэміка Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. З мяст. Турэц (Карэліцкі р-н). Памёр у 1994 г.

**Чэрвень**
**20**
**панядзелак**

105 гадоў з дня нараджэння **Яраслава Кастыцэвіча**, беларускага педагога, грамадскага і царкоўнага дзеяча ў Польшчы. Вучыўся ў Гродзенскай гімназіі. Памёр у 1971 г.

80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Сарокі**, беларускага гісторыка, журналіста, кандыдата гістарычных навук. З в. Місура (Лідскі р-н).

**Чэрвень**
**21**
**аўторак**

270 гадоў з дня нараджэння **Жана Жылібера**, вучонага-прыродазнаўца, кіраўніка Гродзенскай медыцынскай акадэміі. Памёр у 1814 г.

115 гадоў з дня нараджэння **Якава Якаўлева**, савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча. З Гродна. Загінуў у 1938 г.

60 гадоў з дня нараджэння **Віталя Лапы**, беларускага вучонага ў галіне аграхіміі, доктара сельскагаспадарчых навук, прафесара. З в. Сугакі (Ваўкавыскі р-н).

**Чэрвень**
**22**
**серада**

85 гадоў таму назад у **Гродне** была створана падпольная друкарня ЦК КПЗБ.

**Чэрвень**
**23**
**чацвер**

295 гадоў таму назад пачаў дзейнічаць тэатр езуітаў у мяст. **Жодзішкі** (Смаргонскі р-н).

**Чэрвень**
**24**
**пятніца**

70 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Лабко**, беларускага педагога, паэта. Жыве ў в. Сянькоўшчына (Слонімскі р-н).

50 гадоў з дня нараджэння **Святланы Кострыцы**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, дацэнта. У Гродзенскім універсітэце – з 1986 г.

**Чэрвень**
**25**
**субота**

230 гадоў таму назад мяст. **Сапоцкін** (Гродзенскі р-н) атрымала права на штогадовыя кірмашы.

**Чэрвень**
**26**
**нядзеля**

95 гадоў з дня нараджэння **Панцеляймона Радаліцкага**, беларускага хормайстра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Жыў і працаваў у Гродне з 1945 г. Памёр у 1961 г.

**Чэрвень**
**27**
**панядзелак**

145 гадоў таму назад пабудавана царква св. Георгія ў в. **Вялікая Воля** (Дзятлаўскі р-н).

**Чэрвень**
**28**
**аўторак**

165 гадоў таму назад у **Гродне** створана тэатральная трупа С.Навакоўскага.

**Чэрвень**
**29**
**серада**

340 гадоў таму назад складзены інвентар в. **Баярская** (Навагрудскі р-н).

**Чэрвень**
**30**
**чацвер**

60 гадоў з дня нараджэння **Дзмітрыя Кандрацьева**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, дацэнта. З 1977 г. – у Гродзенскім медуніверсітэце.

**Ліпень**
**1**
**пятніца**

75 гадоў з дня нараджэння **Георгія Шанько**, беларускага вучонага ў галіне дзіцячай неўралогіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларусі. З Навагрудка.

**Ліпень**
**2**
**субота**

715 гадоў таму назад адбыліся два напады крыжакаў Тэўтонскага ордэна на **Гародню**.

**Ліпень**
**3**
**нядзеля**

60 гадоў з дня нараджэння **Тадэвуша Гавіна**, польскага грамадска-культурнага дзеяча ў Беларусі. З в. Ласосна (Гродзенскі р-н).

60 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Хамчукова**, беларускага фізіка, кандыдата фізічна-матэматычных навук. З в. Мсцібава (Ваўкавыскі р-н).

**Ліпень**
**4**
**панядзелак**

85 гадоў з дня нараджэння **Івана Здановіча**, беларускага педагога, краязнаўца. З в. Доўгае (Шчучынскі р-н).

70 гадоў з дня ліквідацыі **Навагрудскага** "Катла" – акружэння савецкіх войск (каля 11 дывізій) нямецкімі танкавымі групоўкамі.

**Ліпень**
**5**
**аўторак**

360 гадоў таму назад была пастаўлена ў **Гродне** інтэрмедыя "Схізмат і уніят – каталік".

**Ліпень**
**6**
**серада**

80 гадоў з дня нараджэння **Лідзіі Казей**, беларускага вучонага ў галіне тэрапіі, доктара медыцынскіх навук. З в. Цырын (Карэліцкі р-н).

**Ліпень**
**7**
**чацвер**

215 гадоў з дня нараджэння **Яна Чачота**, беларускага і польскага асветніка, паэта, фалькларыста. З в. Малюшычы (Карэліцкі р-н). Памёр у 1847 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Свірыдзёнка**, вучонага ў галіне матэрыялазнаўства, доктара тэхнічных навук, прафесара, акадэміка Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. З 1990 г. жыве і працуе ў Гродне.

**Ліпень**
**8**
**пятніца**

525 гадоў таму назад упершыню ўпамінаецца ў пісьмовай крыніцы мост праз Нёман у **Гародні**.

**Ліпень**
**9**
**субота**

110 гадоў таму назад створаны ў Гродне філіял “Польскай сацыялістычнай партыі ў Літве”.

**Ліпень**
**10**
**нядзеля**

185 гадоў таму назад пачата будаўніцтва касцёла св. Тэрэзы ў **Шчучыне**.

**Ліпень**
**11**
**панядзелак**

100 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Астрэйкі**, беларускага паэта. У 1946 – 1948 гг. жыў і працаваў у Гродне. Памёр у 1978 г.

**Ліпень**
**12**
**аўторак**

130 гадоў з дня адкрыцця ў **Гродне** фотамайстэрні Я.Салавейчыка.

**Ліпень**
**13**
**серада**

145 гадоў з дня нараджэння **Напалеона Чарноцкага**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, перакладчыка. Жыў і працаваў у Міры, Іўі, Навагрудку, Свіслачы. Памёр у 1937 г.

50 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Васюка**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я.Купалы.

**Ліпень**
**14**
**чацвер**

210 гадоў з дня нараджэння **Антона Глябовіча**, польскага педагога, журналіста, выдаўца. З Гродна. Памёр у 1847 г.

**Ліпень**
**15**
**пятніца**

135 гадоў з дня нараджэння **Цёткі**, беларускай пісьменніцы, грамадскай і культурнай дзяячкі. З маёнт. Пясчына (Шчучынскі р-н). Памерла ў 1916 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Ларана Арыніча**, заслужанага работніка прамысловасці Беларусі. Працаваў у Гродне ў 1963 – 1983 гг.

**Ліпень**
**16**
**субота**

145 гадоў таму назад пабудавана Свята-Пакроўская царква ў в. **Міхневічы** (Смаргонскі р-н).

85 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Мяшчэні**, беларускага педагога і грамадскага дзеяча. З в. Бераставічаны (Бераставіцкі р-н).

**Ліпень**
**17**
**нядзеля**

60 гадоў з дня нараджэння **Людмілы Кебіч**, беларускай паэткі, музычнага педагога. З в. Краснае Сяло (Ваўкавыскі р-н). З 1972 г. – у Гродне.

**Ліпень**
**18**
**панядзелак**

60 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Хартановіча**, рускага лекара, заслужанага ўрача Расіі. З в. Малышы (Лідскі р-н).

**Ліпень**
**19**
**аўторак**

60 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Бушмы**, беларускага вучонага ў галіне фармакалогіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара. З в. Дзяляцічы (Навагрудскі р-н). З 1977 г. – у Гродне.

**Ліпень**
**20**

**серада**

525 гадоў таму назад **Жалудок** (Шчучынскі р-н) атрымаў статус мястэчка.

**Ліпень**
**21**
**чацвер**

120 гадоў з дня нараджэння **Ільі Аўсейчыка**, беларускага педагога, удзельніка вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. З в Раневічы (Свіслацкі р-н). Памёр у 1944 г.

50 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Рахматава**, беларускага спартыўнага педагога, кандыдата педагагічных навук, дацэнта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэа імя Я.Купалы.

**Ліпень**
**22**
**пятніца**

75 гадоў з дня нараджэння **Вацлава Дзедуля**, беларускага вучонага ў галіне тэрапіі, кандыдата медыцынскіх навук, дацэнта Гродзенскага медуніверістэта. З в. Урцішкі (Іўеўскі р-н).

75 гадоў з дня нараджэння **Вячаслава Чамярыцкага**, беларускага літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук. З в. Рабкі (Дзятлаўскі р-н).

**Ліпень**
**23**
**субота**

115 гадоў з дня нараджэння **Антона Валынчыка**, беларускага хормайстра, музычнага педагога, кампазітара, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. З в. Мялькaнавічы (Слонімскі р-н). Памёр у 1985 г.

**Ліпень**
**24**
**нядзеля**

250 гадоў з дня нараджэння **Якуба Ясінскага**, аднаго з кіраўнікоў паўстання супраць Расіі ў 1794 г., генерала, паэта. Дзейнічаў на Ашмяншчыне, Смаргоншчыне, у Гродне. Загінуў у 1794 г.

205 гадоў з дня нараджэння **Яна Жылінскага**, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1830 – 31 гг. на Гродзеншчыне. Памёр у 1859 г.

115 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Орсы**, беларускага педагога, доктара прыродазнаўства. З мяст. Нягневічы (Навагрудскі р-н). Памёр у 1959 г.

**Ліпень**
**25**
**панядзелак**

145 гадоў таму назад створана суконная мануфактура ў в. **Гнезна** (Ваўкавыскі р-н).

**Ліпень**
**26**
**аўторак**

500 гадоў з дня атрымання **Навагрудкам** прывілея на Магдэбурскае права.

**Ліпень**
**27**
**серада**

70 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Жучко**, беларускага архітэктара. З 1973 г. – у Гродне.

**Ліпень**
**28**
**чацвер**

50 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Курловіча**, беларускага спартыўнага педагога, заслужанага майстра спорту СССР, заслужанага работніка фізічнай культуры і спорту Беларусі. З Гродна, тут жыве і працуе.

**Ліпень**
**29**
**пятніца**

85 гадоў таму назад пачаліся першыя рэпетыцыі беларускага хору ў **Дзяляцічах** (Навагрудскі р-н), з якіх бярэ пачатак Дзяляціцкая народная харавая капэла.

**Ліпень**
**30**
**субота**

285 гадоў з дня нараджэння **Ігната Масальскага**, польскага і беларускага рэлігійна-асветнага дзеяча, доктара права. З в. Алекшыцы (Бераставіцкі р-н) Памёр у 1794 г.

**Ліпень**
**31**
**нядзеля**

475 гадоў таму назад **Забалаць** (Воранаўскі р-н) атрымала статус мястэчка.

**Жнівень**
**1**
**панядзелак**

90 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Урбановіча**, беларускага педагога, краязнаўца. З в. Пудзіна (Навагрудскі р-н). Настаўнічаў у Лідзе, Бярозаўцы (Лідскі р-н), Райцы (Карэліцкі р-н), Валеўцы (Навагрудскі р-н).

**Жнівень**
**2**
**аўторак**

75 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Шавейкі**, беларускага эканаміста, кандыдата эканамічных навук. З в. Церабостынь (Карэліцкі р-н).

60 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Красоўскага**, беларускага вучонага ў галіне электроннай тэхнікі, кандыдата тэхнічных навук, дацэнта. З мяст. Любча (Наавагрудскі р-н).

**Жнівень**
**3**
**серада**

110 гадоў таму назад пачаў выходзіць у **Гродне** часопіс "Гродненские епархиальные ведомости".

50 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Вольфа**, беларускага вучонага ў галіне фтызіятрыі, кандыдата медыцынскіх навук, дацэнта Гродзенскага медуніверсітэта. З Гродна.

**Жнівень**
**4**
**чацвер**

335 гадоў з дня нараджэння **Даменіка Рудніцкага**, беларускага і польскага пісьменніка. Выкладаў у езуіцкіх калегіях у Гродне, Навагрудку. Памёр у 1739 г.

**Жнівень**
**5**
**пятніца**

125 гадоў з дня нараджэння **Браніслава Ямантa**, беларускага і польскага мастака, мастацкага педагога, доктара мастацтвазнаўства, прафесара. З в. Дакудава (Лідскі р-н). Памёр у 1957 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Соф'і Радзевіч**, беларускага педагога, заслужанай настаўніцы Беларусі. З в. Поўбераг (Навагрудскі р-н).

**Жнівень**
**6**
**субота**

450 гадоў з дня напісання вялікім князем Жыгімонтам-Аўгустам ліста (на беларускай мове), якім надаюцца **гарадзенцу** Фёдару Міленькаму герб і шляхецкія правы.

**Жнівень**
**7**
**нядзеля**

280 гадоў таму назад складзены інвентар касцёла ў в. **Белагруда** (Лідскі р-н).

**Жнівень**
**8**
**панядзелак**

235 гадоў таму назад пачала выходзіць першая газета ў **Гродне** – "Gazeta Grodzieńska".

**Жнівень**
**9**
**аўторак**

85 гадоў з дня нараджэння **Янкі Запрудніка**, беларускага грамадска-палітычнага дзеяча на эміграцыі, гісторыка. З мяст. Мір (Карэліцкі р-н).

**Жнівень**
**10**
**серада**

215 гадоў з дня нараджэння **Ігната Легатовіча**, беларускага і польскага паэта. З в. Малая Капліца (Гродзенскі р-н). Памёр у 1867 г.

110 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Дзяругі**, беларускага дырыжора, кампазітара, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. У 1948 – 1979 гг. кіраваў цымбальным аркестрам Смаргонскага ГДК. Памёр у 1979 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Барыса Ульянкі**, беларускага эканаміста, педагога, кандыдата эканамічных навук, дацэнта. З в. Антанёва (Карэліцкі р-н).

**Жнівень**
**11**
**чацвер**

210 гадоў з дня нараджэння **Юльяна Міцкевіча**, беларускага і польскага гісторыка права, прафесара. З Навагрудка. Памёр у 1871 г.

**Жнівень**
**12**
**пятніца**

120 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Чарвякоўскага**, беларускага краязнаўца, бібліяфіла. З Гродна. Памёр у 1981 г.

**Жнівень**
**13**
**субота**

395 гадоў таму назад кальвіністы адкрылі ў **Навагрудку** школу з выкладаннем на беларускай мове.

**Жнівень**
**14**
**нядзеля**

105 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Новіка-Пеюна**, беларускага культурнага дзеяча, пісьменніка. Жыў у Слоніме ў 30 – 40-я гг. Памёр у 1994 г.

**Жнівень**
**15**
**панядзелак**

180 гадоў з дня нараджэння **Вінцэнта Каратынскага**, беларускага і польскага паэта, журналіста, краязнаўца. З в. Селішча (Карэліцкі р-н). Памёр у 1891 г.

110 гадоў з дня адкрыцця мураванага маста праз р.Гараднічанку ў **Гродне**.

**Жнівень**
**16**

**аўторак**

525 гадоў таму назад **Васілішкі** (Шчучынскі р-н) набылі статус мястэчка.

**Жнівень**
**17**
**серада**

110 гадоў таму назад у мяст. **Парэчча** (Гродзенскі р-н) пабудавана царква Казанскай Маці Божай.

**Жнівень**
**18**
**чацвер**

120 гадоў з дня нараджэння **Макара Краўцова**, беларускага пісьменніка, грамадска-палітычнага дзеяча. З в. Баброўня (Гродзенскі р-н). Загінуў у 1939 г.

100 гадоў з дня нараджэння **Вінцука Склубоўскага**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча ў Польшчы. З в. Малышкаўшчына (Ашмянскі р-н). Памёр у 2002 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Ніны Гаўрош**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, прафесара. З в. Лукі (Карэліцкі р-н).

**Жнівень**
**19**
**пятніца**

60 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Зіматкіна**, беларускага вучонага ў галіне біяхіміі і марфалогіі, доктара біялагічных навук. Скончыў Гродзенскі медінстытут, тут працуе.

**Жнівень**
**20**
**субота**

90 гадоў з дня нараджэння **Ціхана Панцюшэнкі**, рускага пісьменніка, лекара, доктара медыцынскіх навук. У 1952 – 1965 гг. працаваў у Гродне.

**Жнівень**
**21**
**нядзеля**

490 гадоў таму назад упамінаецца ўпершыню в.**Свяцк** (Гродзенскі р-н) як уладанне Ю.Радзівіла.

**Жнівень**
**22**
**панядзелак**

150 гадоў з дня нараджэння **Ігната Буйніцкага**, беларускага тэатральнага артыста, рэжысёра, пачынальніка беларускага нацыянальнага тэатра. У 1911 г. выступаў з сваёй трупай у Ашмянах і Смаргоні. Памёр у 1917 г.

**Жнівень**
**23**
**аўторак**

215 гадоў з дня нараджэння **Францішка Міцкевіча**, удзельніка паўстання супраць Расіі ў 1830 – 31 гг. З Навагрудка. Памёр у 1862 г.

80 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Ягоўдзіка**, беларускага вучонага ў галіне дэрматавенералогіі і клінічнай біяхіміі, доктара медыцынскіх навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларусі. З в. Куцэйкі (Слонімскі р-н).

**Жнівень**
**24**
**серада**

140 гадоў таму назад пабудавана Свята-Праабражэнская царква ў в. **Ярэмічы** (Карэліцкі р-н).

**Жнівень**
**25**
**чацвер**

870 гадоў таму назад выкананы першы на тэрыторыі Гродзеншчыны рукапіс, пісаны на пергаменце "рукою многогрешного дьяка Никиты з Любъчи" (Навагрудскі р-н).

**Жнівень**
**26**
**пятніца**

130 гадоў таму назад пабудавана Свята-Крыжаўзвіжанская царква ў в. **Галавачы** (Гродзенскі р-н).

**Жнівень**
**27**
**субота**

75 гадоў з дня нараджэння Мар'яна Нікадона, польскага пісьменніка. З в. Агароднікі (Ашмянскі р-н).

**Жнівень**
**28**
**нядзеля**

415 гадоў таму назад у **Ражанцы** (Шчучынскі р-н) заснаваны Аляксандрай Тышкевіч прыходскі касцёл.

60 гадоў з дня нараджэння **Віктара Александровіча**, беларускага мастака. З в. Слабодка (Астравецкі р-н).

**Жнівень**

**29**
**панядзелак**

705 гадоў таму назад адбыўся напад крыжацкіх аддзелаў на **Гарадзенскі замак**.

**Жнівень**
**30**
**аўторак**

75 гадоў з дня нараджэння **Святланы Мусіенкі**, беларускага літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы.

**Жнівень**
**31**
**серада**

500 гадоў таму назад мяст. **Жодзішкі** (Смаргонскі р-н) атрымала прывілей вялікага князя Жыгімонта Старога на гандаль, кірмашы і корчмы.

**Верасень**
**1**
**чацвер**

95 гадоў таму назад у выніку баявых дзеянняў падчас 1-ай сусветнай вайны зруйнаваны манастыр XIII ст. у в. **Лаўрышава** (Навагрудскі р-н).

**Верасень**
**2**
**пятніца**

175 гадоў таму назад узведзены ў **Навагрудку** мураваныя гандлёвыя рады.

**Верасень**
**3**
**субота**

280 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Богуш-Сестранцэвіча**, беларускага грамадскага і рэлігійна-асветнага дзеяча, каталіцкага мітрапаліта З в. Занкі (Свіслацкі р-н). Памёр у 1826 г.

**Верасень**
**4**
**нядзеля**

235 гадоў таму назад пачалася гісторыя бібліятэкі Храптовічаў у **Шчорсах** (Навагрудскі р-н).

75 гадоў з дня нараджэння **Сакрата Яновіча**, беларускага пісьменніка ў Польшчы. У 70 – 90-я гг. шмат разоў бываў у Гродне, выступаў перад чытачамі.

**Верасень**
**5**

**панядзелак**

80 гадоў з дня нараджэння **Івана Салея**, заслужанага будаўніка Беларусі, Героя сацыялістычнай працы. З в. Раўкі (Гродзенскі р-н).

**Верасень**
**6**
**аўторак**

75 гадоў з дня нараджэння **Фёдара Мірачыцкага**, гаспадарчага дзеяча Беларусі, выпускніка Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута, заслужанага работніка сельскай гаспадаркі Беларусі. З в. Баяры (Карэліцкі р-н).

**Верасень**
**7**
**серада**

75 гадоў з дня нараджэння **Аркадзя Каралько**, беларускага вучонага ў галіне тэхналогіі вытворчасці трактароў, кандыдата тэхнічных навук, дацэнта. З в. Скрышава (Карэліцкі р-н).

**Верасень**
**8**
**чацвер**

110 гадоў таму назад пабудаваны ў стылі класіцызму касцёл св. Тройцы ў мяст. **Рось** (Ваўкавыскі р-н).

**Верасень**
**9**
**пятніца**

210 гадоў з дня ўтварэння ў складзе Расійскай імперыі **Гродзенскай губерні**.

75 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Габрусевіча**, беларускага філосафа, культуролага, кандыдата філасофскіх навук, прафесара Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. З в. Верхаўляны (Бераставіцкі р-н).

**Верасень**
**10**
**субота**

80 гадоў з дня нараджэння **Ранальда Кныша**, беларускага спартыўнага педагога, заслужанага трэнера СССР, заслужанага дзеяча фізічнай культуры і спорту Беларусі, паэта. Працаваў у Гродне ў 1953 – 1980 гг.

**Верасень**
**11**
**нядзеля**

170 гадоў з дня нараджэння **Гіяцынта Альхімовіча**, беларускага і французскага мастака. З маёнт. Дуброва (Шчучынскі р-н). Памёр у 1897 г.

**Верасень**
**12**
**панядзелак**

625 гадоў таму назад Карыбут Альгердавіч перадаў укладную грамату манастыру ў **Лаўрышаве** (Навагрудскі р-н).

80 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Кабяка**, беларускага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча. Працаваў на Гродзеншчыне ў 50-80-я гг. Памёр у 1985 г.

**Верасень**
**13**
**аўторак**

70 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Зданчука**, беларускага гаспадарчага дзеяча, заслужанага работніка сельскай гаспадаркі Беларусі. З в. Шалепкі (Бераставіцкі р-н).

**Верасень**
**14**
**серада**

735 гадоў таму назад адбылося перасяленне часткі прусаў на сталае жыхарства пад **Гродна** і **Слонім** дзеля выратавання ад крыжакаў.

**Верасень**
**15**
**чацвер**

115 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Антонава**, савецкага ваеннага дзеяча, генерала арміі. З Гродна. Памёр у 1962 г.

80 гадоў з дня нараджэння **Генрыха Шумскага**, беларускага скульптара. З в. Кронькі (Шчучынскі р-н).

**Верасень**
**16**
**пятніца**

100 гадоў таму назад дзейнічалі бібліятэкі: у Гродне – 4
Слоніме – 5
Лідзе – 2
Ваўкавыску – 2
Смаргоні – 2

**Верасень**
**17**
**субота**

120 гадоў з дня нараджэння **Антона Баліцкага**, беларускага дзяржаўнага і культурнага дзеяча. З в. Балічы (Гродзенскі р-н). Загінуў у 1937 г.

85 гадоў з дня нараджэння **Валянціны Ваглай**, беларускага педагога, заслужанай настаўніцы Беларусі. Працавала ў Зэльвенскім, Мастоўскім раёнах.

**Верасень**
**18**
**нядзеля**

255 гадоў таму назад у **Слоніме** прайшоў з’езд вышэйшых дзяржаўных асоб Вялікага Княства Літоўскага.

**Верасень**
**19**
**панядзелак**

50 гадоў з дня нараджэння **Юрася Нератка**, беларускага і рускага пісьменніка. З в. Баяры (Мастоўскі р-н).

**Верасень**
**20**
**аўторак**

465 гадоў таму назад каралева Бона зацвердзіла для жыхароў **Адэльска** (Гродзенскі р-н) права на адкрыццё корчмаў і правядзенне штотыднёвых таргоў.

**Верасень**
**21**
**серада**

620 гадоў таму назад пісана ў **Ашмянах** на лацінскай мове грамата вялікага князя Ягайлы аб перадачы зямлі Аўгусцінскаму манастыру.

**Верасень**
**22**
**чацвер**

110 гадоў з дня нараджэння **Васіля Панасевіча-Каляды**, беларускага вучонага ў галіне арганічнай хіміі, доктара хімічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларусі. З в. Пагор’е (Карэліцкі р-н). Памёр у 1989 г.

**Верасень**
**23**
**пятніца**

75 гадоў з дня нараджэння **Сямёна Шарэцкага**, беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, эканаміста, доктара эканамічных навук, прафесара. З в. Лаўрышава (Навагрудскі р-н).

**Верасень**
**24**
**субота**

370 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Незабітоўскага**, беларускага грамадскага і культурнага дзеяча. З в. Ятра (Навагрудскі р-н). Памёр у 1717 г.

50 гадоў з дня нараджэння **Віктара Калюты**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. З Гродна.

**Верасень**
**25**
**нядзеля**

95 гадоў з дня нараджэння **Алеся Сучка**, беларускага паэта, удзельніка вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Жыў у вёсках Какошчыцы, Азярніца (Слонімскі р-н). Памёр у 1993 г.

85 гадоў з дня нараджэння **Лідзіі Кірылюк**, беларускага матэматыка, кандыдата фізічна-матэматычных навук, прафесара. З Гродна. Працавала ў Гродзенскім педінстытуце (універсітэце) у 1955 – 2005гг.

**Верасень**
**26**
**панядзелак**

260 гадоў таму назад у евангеллі XVI ст. зроблена прыпіска Іаанам Савічам, святаром “церкви Волковицкой”, што дае падставу лічыць кнігу **Ваўкавыскім** евангеллем.

**Верасень**
**27**
**аўторак**

105 гадоў з дня нараджэння **Паўла Жалезняковіча**, дзеяча вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У 1944 – 68 гг. працаваў у Карэліцкім р-не. Памёр у 1971 г.

**Верасень**
**28**
**серада**

120 гадоў таму назад пабудавана царква св. Параскевы Пятніцы ў в. **Галынка** (Гродзенскі р-н).

75 гадоў з дня нараджэння **Рудольфа Пастухова**, рускага паэта. З 1970 г. жыў у Слоніме. Памёр у 1997 г.

**Верасень**
**29**
**чацвер**

120 гадоў з дня нараджэння **Аркадзя Смоліча**, беларускага дзяржаўна-палітычнага дзеяча, вучонага ў галіне геаграфіі, эканомікі Беларусі, прафесара. У 1912 г. быў у Іўеўскім, Лідскім, Навагрудскім паветах, у 1920-ым – у Гродне. Загінуў у 1938 г.

**Верасень**
**30**
**пятніца**

75 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Разумовіча**, беларускага вучонага ў галіне біяхіміі і генетыкі, доктара біялагічных навук, прафесара. З мяст. Любча (Навагрудскі р-н). Памёр у 1987 г.

30 гадоў з дня адкрыцця **Гродзенскага** абласнога тэатра лялек.

**Кастрычнік**
**1**
**субота**

135 гадоў з дня адкрыцця ў **Гродне** "павівальнай школы".

85 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Роўбы**, беларускага лекара, заслужанага ўрача Беларусі. Працаваў з 1950 г. у Радуні (Воранаўскі р-н), Гродне.

**Кастрычнік**
**2**
**нядзеля**

115 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Дучыца**, беларускага мастака. З мяст. Любча (Навагрудскі р-н). Памёр у 1980 г.

80 гадоў з дня нараджэння **Георгія Кавалеўскага**, беларускага вучонага ў галіне паталагічнай анатоміі, доктара медыцынскіх навук. З в. Зеняўшчына (Навагрудскі р-н). Памёр у 1997 г.

**Кастрычнік**
**3**
**панядзелак**

365 гадоў таму назад пачала дзейнічаць у **Навагрудку** музычная бурса езуітаў.

**Кастрычнік**
**4**
**аўторак**

270 гадоў з дня нараджэння **Францішка Карпінскага**, польскага пісьменніка. З 1818 г. жыў у маёнт. Хораўшчына (Свіслацкі р-н), Часта бываў у Гродне. Памёр у 1825 г.

515 гадоў з дня напісання ў **Гродне** вялікім князем Аляксандрам граматы (на беларускай мове) на землі і сенажаці па рацэ Мухавец, якія даруюцца Федзьку Янушкевічу.

**Кастрычнік**
**5**
**серада**

500 гадоў таму назад мяст. **Жодзішкі** (Смаргонскі р-н) упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах.

**Кастрычнік**
**6**
**чацвер**

135 гадоў з дня нараджэння **Яна Булгака**, беларускага і польскага фотамастака, этнографа. З в. Асташын (Карэліцкі р-н). Памёр у 1950 г.
50 гадоў з дня нараджэння **Алы Клімянок**, беларускай пісьменніцы. Жыве і працуе ў Смаргоні.

**Кастрычнік**
**7**
**пятніца**

100 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Рамановіча**, беларускага мастака. З Карэлічаў. Памёр у 1945 г.

**Кастрычнік**
**8**
**субота**

150 гадоў таму назад створана ў **Гродне** К.Каліноўскім і В.Урублеўскім нелегальная рэвалюцыйная арганізацыя, якая падрыхтавала і ўзначаліла паўстанне супраць Расіі ў 1863 – 1864 гг.

**Кастрычнік**
**9**
**нядзеля**

365 гадоў таму назад пабудаваны ў **Дзятлаве** касцёл Успення Багародзіцы.

**Кастрычнік**
**10**
**панядзелак**

90 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Гарабца**, беларускага музычнага педагога, кампазітара. Жыў і працаваў у Слоніме. Памёр у 1991 г.
80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Нядзелькі**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта. Працаваў у Гродзенскім педінстытуце (універсітэце) у 1957 - 2007 гг.
70 гадоў з дня нараджэння **Барыса Віленчыка**, беларускага вучонага ў галіне дэрматавенералогіі, кандыдата медыцынскіх навук, дацэнта. Працаваў у Гродне ў 1968 – 1972 гг.

**Кастрычнік**
**11**
**аўторак**

75 гадоў з дня нараджэння **Івана Граблеўскага**, беларускага журналіста, краязнаўца. З в. Сакольнікі (Астравецкі р-н). Памёр у 1994 г.

60 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Сыцько**, беларускага фізіка, доктара фізічна-матэматычных навук, прафесара. З Гродна.

**Кастрычнік**
**12**
**серада**

75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Васільева**, беларускага вучонага-інфекцыяніста, доктара медыцынскіх навук, прафесара Гродзенскага медуніверсітэта.

**Кастрычнік**
**13**
**чацвер**

90 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Парамея**, беларускага вучонага ў галіне афтальмалогіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара. У Гродзенскім медінстытуце працаваў з 1962 г. Памёр у 2001 г.

**Кастрычнік**
**14**
**пятніца**

145 гадоў таму назад пабудавана Свята-Дзмітрыеўская царква ў в. **Малая Бераставіца** (Бераставіцкі р-н).

85 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Зайцава**, беларускага спартыўнага педагога, заслужанага трэнера Беларусі. Працаваў у Зэльве, Мастах.

**Кастрычнік**
**15**
**субота**

50 гадоў з дня нараджэння **Іны Германенкі**, беларускага вучонага ў галіне педыятрыі, кандыдата медыцынскіх навук. З мяст. Мір (Карэліцкі р-н).

**Кастрычнік**
**16**
**нядзеля**

95 гадоў з дня адкрыцця ў **Свіслачы** беларускай настаўніцкай семінарыі.

85 гадоў з дня выхаду ў **Гродне** газеты-ўлёткі “Мысли” органа рускага дабрачыннага таварыства.

**Кастрычнік**
**17**
**панядзелак**

505 гадоў таму назад адбыліся рабаўнічыя наезды крымчакоў на **Ашмяны** і **Ваўкавыск**.

**Кастрычнік**
**18**
**аўторак**

105 гадоў з дня нараджэння **Алеся Салагуба**, беларускага паэта. З в. Зарудзічы (Смаргонскі р-н). Загінуў у 1934 г.

100 гадоў з дня нараджэння **Юліёнаса Стапанавічуса**, літоўскага рэлігійнага дзеяча, арцыбіскупа. З в. Мацюны (Астравецкі р-н) Памёр у 1991 г.

50 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Захарава**, беларускага музыканта, музычнага педагога, кампазітара. З Гродна, тут жыве і працуе.

**Кастрычнік**
**19**
**серада**

375 гадоў з дня напісання ў **Навагрудку** на беларускай мове ліста ўніяцкага мітрапаліта В.Руцкага ў абарону спадчынных правоў святара Маламажэйкаўскай царквы (Шчучынскі р-н) Ф.Варатынскага.

**Кастрычнік**
**20**
**чацвер**

400 гадоў таму назад у **Росі** (Ваўкавыскі р-н) заснаваны Еранімам Хадкевічам драўляны касцёл.

**Кастрычнік**
**21**
**пятніца**

595 гадоў таму назад адкрыта школа ў мяст. **Любча** (Навагрудскі р-н).

**Кастрычнік**
**22**
**субота**

30 гадоў таму назад створаны ансамбль народнай музыкі “Лявоны” **Воранаўскага** раённага дома культуры.

**Кастрычнік**
**23**
**нядзеля**

50 гадоў з дня нараджэння **Ірыны Войткі**, беларускай паэткі. З в. Каралін (Зэльвенскі р-н). Жыве і працуе ў Слоніме.

**Кастрычнік**
**24**
**панядзелак**

130 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Касцялкоўскага**, польскага і беларускага гісторыка, доктара філасофіі, прафесара. З Гродна. Памёр у 1960 г.

**Кастрычнік**
**25**
**аўторак**

505 гадоў з дня напісання ў **Гродне** (на лацінскай мове) граматы вялікага князя Жыгімонта, якая зацвярджала віленскім месцічам іх правы, прывілеі і вольнасці.

100 гадоў з дня нараджэння **Марыі Кавязінай**, беларускай артысткі тэатра, заслужанай артысткі Беларусі. Працавала ў Гродзенскім драмтэатры ў 1947 – 1969 гг.. Памерла ў 1975 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Андрыеўскага**, беларускага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча. З в. Мацеевічы (Бераставіцкі р-н).

**Кастрычнік**
**26**
**серада**

140 гадоў з дня нараджэння **Іосіфа Дамашэўскага**, яўрэйскага пісьменніка. З мяст. Дзярэчын (Зэльфенскі р-н). Памёр у 1908 г.

**Кастрычнік**
**27**
**чацвер**

50 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Янушкевіча**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, дацэнта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы. З в. Клінчаны (Гродзенскі р-н).

**Кастрычнік**
**28**
**пятніца**

130 гадоў таму назад канчаткова сфармаваны ў **Гродне** моладзевы гурток "Народнай волі".

**Кастрычнік**
**29**
**субота**

620 гадоў таму назад **Гродна** атрымала Магдэбургскае права (няпоўнае), 515 таму – поўнае.

**Кастрычнік**
**30**
**нядзеля**

90 гадоў з дня нараджэння **Соф'і Ільінскай-Масялей**, англійскай і польскай паэткі. У дзяцінстве і юнацтве жыла ў в. Морына (Іўеўскі р-н). Памерла ў 1995 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Генадзя Цыхуна**, беларускага мовазнаўца-славіста, доктара філалагічных навук. З в. Кунцаўшчына (Гродзенскі р-н).

**Кастрычнік**
**31**
**панядзелак**

80 гадоў з дня нараджэння **Тамары Шашкінай**, беларускай тэатральнай артысткі, заслужанай артысткі Беларусі. Працавала ў Гродзенскім драмтэатры ў 1959 – 1964 гг.

**Лістапад**
**1**
**аўторак**

135 гадоў таму назад пабудавана Свята-Крыжаўзвіжанская царква ў в. **Дзятлаўцы** (Навагрудскі р-н).

**Лістапад**
**2**
**серада**

730 гадоў таму назад упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах адзін з першых **слонімскіх** князёў Васілька.

**Лістапад**
**3**
**чацвер**

95 гадоў таму назад упершыню адкрыта ў **Гродне** беларуская школа.

**Лістапад**
**4**
**пятніца**

430 гадоў з дня напісання "у обозе под Псковом" ліста караля Стафана Баторыя Бальцару Язерскаму аб перадачы яму за добрую службу маёнтка **Зэльва** "з селы и с приселки, з бояры путными, з людми тяглыми и осадными, з сеножатмы, з луги, з поплавы, з болоты, з быдлом рогатым, великим и малым".

180 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Ляскова**, рускага пісьменніка. Быў у Гродне ў 1862 г.

**Лістапад**

**5**
**субота**

80 гадоў з дня нараджэння **Галіны Верабей**, беларускага педагога, заслужанай настаўніцы Беларусі. З в. Мілевічы (Мастоўскі р-н).

75 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Г**убко, беларускага вучонага ў галіне траўматалогіі і артапедыі, доктара медыцынскіх навук, прафесара. З в. Хадзяўляны (Дзятлаўскі р-н). Памёр у 1993 г.

**Лістапад**
**6**
**нядзеля**

60 гадоў з дня нараджэння **Ігара Змітровіча**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта. У Гродзенскім універсітэце – з 1980 г.

**Лістапад**
**7**
**панядзелак**

235 гадоў таму назад пабудавана па волі Іяхіма Храптовіча уніяцкая царква (Дзмітрыеўская) у стылі беларускага барока ў в. **Шчорсы** (Навагрудскі р-н).

**Лістапад**
**8**
**аўторак**

70 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Гурына**, беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук. З в. Радунь (Карэліцкі р-н).

**Лістапад**
**9**
**серада**

420 гадоў таму назад у **Гродне** было створана праваслаўнае брацтва.

**Лістапад**
**10**
**чацвер**

100 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Свіркі**, польскага фальклaрыста, літаратуразнаўца, доктара філалогіі габілітаванага. З пас. Нёман (Мастоўскі р-н). Памёр у 1992 г.

90 гадоў з дня нараджэння **Віктара Роўды**, беларускага хормайстра, музычнага педагога, кандыдата мастацтвазнаўства, прафесара, народнага артыста Беларусі і СССР. З Смаргоні. Памёр у 2007 г.

**Лістапад**
**11**
**пятніца**

135 гадоў з дня нараджэння **Мечыслава Карловіча**, польскага кампазітара, дырыжора. З маёнт. Вішнева (Смаргонскі р-н). Памёр у 1909 г.

120 гадоў з дня нараджэння **Максіма Багдановіча**, беларускага паэта, класіка беларускай літаратуры. Жыў у Гродне ў 1892 – 1896 гг. Памёр у 1917 г.

110 гадоў з дня нараджэння **Рыгора Быліча**, савецкага вайскоўца, генерал-маёра. З в. Заполле (Карэліцкі р-н). Памёр у 1960 г.

**Лістапад**
**12**
**субота**

440 гадоў таму назад упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах в. **Зубаўшчына** (Ваўкавыскі р-н).

**Лістапад**
**13**
**нядзеля**

230 гадоў таму назад пабудаваны ў **Кямелішках** (Астравецкі р-н) воляю генерала ВКЛ Станіслава Прушынскага драўляны касцёл Нараджэння Дзевы Марыі.

**Лістапад**
**14**
**панядзелак**

105 гадоў таму назад адкрылася ў **Гродне** прыватная жаночая гімназія К.Баркоўскай.

**Лістапад**
**15**
**аўторак**

100 гадоў таму назад пачаў выходзіць у **Гродне** часопіс “Педагогическое дело”.

**Лістапад**
**16**
**серада**

100 гадоў з дня нараджэння **Марка Гавурына**, рускага матэматыка, доктара фізічна-матэматычных навук, прафесара. З мяст. Мір (Карэліцкі р-н). Памёр у 1992 г.

**Лістапад**
**17**
**чацвер**

75 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Жвалеўскага**, беларускага журналіста, публіцыста. З в. Канюхі (Бераставіцкі р-н).

**Лістапад**
**18**
**пятніца**

155 гадоў з дня нараджэння **Платона Лячыцкага**, расійскага ваеннага дзеяча, генерала ад інфантэрыі. З Гродзеншчыны. Памёр у 1923 г.

**Лістапад**
**19**
**субота**

245 гадоў таму назад адкрылася ў **Гродне** “Кампанія шарсцяных мануфактур”.

**Лістапад**
**20**
**нядзеля**

50 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Юшко**, беларускага эканаміста, педагога, кандыдата эканамічных навук, дацэнта. З Ліды.

**Лістапад**
**21**
**панядзелак**

100 гадоў з дня першай пастаноўкі на беларускай сцэне (у Вільні) інсцэніроўкі паводле аповесці “Хам” **Элізы Ажэшкі**, польскай гродзенскай пісьменніцы.

**Лістапад**
**22**
**аўторак**

135 гадоў з дня нараджэння **Зіновія Салаўёва**, дзеяча аховы здароўя ў СССР. З Гродна. Памёр у 1928 г.

**Лістапад**
**23**
**серада**

425 гадоў з дня напісання “**ў Городне**” на беларускай мове пацвярджальнага ліста караля Стафана Баторыя Якубу Лашкоўскаму, якому перадаюцца тры вёскі ў Жмудскай зямлі.

**Лістапад**
**24**
**чацвер**

515 гадоў таму назад г.**Гродна** атрымаў прывілей вялікага князя Аляксандра на правядзенне кірмашоў (па тры разы ў год).

**Лістапад**
**25**

**пятніца**

75 гадоў з дня нараджэння **Івана Крэня**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, прафесара, заслужанага работніка адукацыі Беларусі. У 1967 – 1988 і з 1990г. – у Гродзенскім універсітэце.

70 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Буры**, беларускага спартыўнага педагога, заслужанага трэнера Беларусі. З 1967 г. – у Гродне.

**Лістапад**
**26**
**субота**

120 гадоў з дня нараджэння **Янкі Станкевіча**, беларускага культурнага дзеяча, мовазнаўца, доктара славянскага мовазнаўства. З в. Арляняты (Ашмянскі р-н). Памёр у 1976 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Лобура**, беларускага спартыўнага педагога, заслужанага трэнера Беларусі. Працаваў у Смаргоні (з 1973 г.), у Гродне – з 1976 г.

**Лістапад**
**27**
**нядзеля**

90 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Тарасевіча**, беларускага грамадска-рэлігійнага дзеяча на эміграцыі, доктара тэалогіі. З в. Клешнякі (Шчучынскі р-н). Памёр у 1986 г.

**Лістапад**
**28**
**панядзелак**

85 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Раковіча**, беларускага вучонага ў галіне тэхнічнай кібернетыкі і інфарматыкі, доктара тэхнічных навук, прафесара. З в. Лясок (Карэліцкі р-н). Памёр у 2000 г.

**Лістапад**
**29**
**аўторак**

20 гадоў таму назад створаны ў **Гродне** беларускі хор “Бацькаўшчына” (кіраўнік В.В.Кунцэвіч).

**Лістапад**
**30**
**серада**

395 гадоў таму назад у **Любчы** (Навагрудскі р-н) выдадзена кніга “Хатнія лекі…” (на польскай мове), якая перавыдавалася і перапісвалася за межамі Беларусі.

**Снежань**
**1**
**чацвер**

85 гадоў з дня нараджэння **Збігнева Хмялеўскага**, польскага кінарэжысёра. З Слоніма.

**Снежань**
**2**
**пятніца**

235 гадоў з дня нараджэння **Анёла Доўгірда**, беларускага філосафа, псіхолага, педагога. Выкладаў у Лідзе, Шчучыне. Памёр у 1835 г.

**Снежань**
**3**
**субота**

75 гадоў з дня нараджэння **Канстанціна Кудлы**, беларускага вучонага ў галіне біягеахіміі, кандыдата біялагічных навук, дацэнта. З в. Масявічы (Лідскі р-н).

60 гадоў з дня нараджэння **Івана Кліменкі**, беларускага мастака. З мяст. Юрацішкі (Іўеўскі р-н).

**Снежань**
**4**
**нядзеля**

70 гадоў з дня нараджэння **Івана Пяшко**, беларускага пісьменніка, журналіста. З в. Лішчыцы (Гродзенскі р-н). З 1967 г. – у Шчучынскім р-не, у Шчучыне.

**Снежань**
**5**
**панядзелак**

125 гадоў з дня нараджэння **Міколы Равенскага**, беларускага кампазітара. У 1905 – 1912 гг. жыў і працаваў у Навагрудку. Памёр у 1953 г.

110 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Нагорнага**, савецкага вайскоўца, генерал-палкоўніка. З в. Асташына (Навагрудскі р-н). Памёр у 1985 г.

80 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Мурахвера**, беларускага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. З 1959 г. – на шклозаводзе “Нёман” (Лідскі р-н).

**Снежань**
**6**
**аўторак**

620 гадоў таму назад **Навагрудак** вытрымаў аблогу крыжакаў і не дапусціў ворага ў горад.

**Снежань**
**7**
**серада**

505 гадоў з дня напісання ў **Гродне** на лацінскай мове прывілея вялікага князя Жыгімонта аб абароне правоў і маёмасці падданых.

**Снежань**
**8**
**чацвер**

760 гадоў таму назад адбыўся захопніцкі паход войска Галіцка-Валынскай зямлі на **Навагрудак** і **Гродна**.

**Снежань**
**9**
**пятніца**

480 гадоў таму назад адкрыта базыльянская школа ў **Жыровічах** (Слонімскі р-н).

**Снежань**
**10**
**субота**

110 гадоў таму назад заснаваны ў **Лідзе** чыгуналіцейны і машынабудаўнічы заводы.

**Снежань**
**11**
**нядзеля**

625 гадоў таму назад адбываецца масавае хрышчэнне насельніцтва **Гарадзеншчыны** (Чорнай Русі), якое трымалася паганства, у каталіцтва.

**Снежань**
**12**
**панядзелак**

475 гадоў таму назад пабудаваны ў **Гервятах** (Астравецкі р-н) касцёл св. Тройцы.

**Снежань**
**13**
**аўторак**

275 гадоў таму назад пабудаваны ў в. **Валеўка** (Навагрудскі р-н) касцёл св. Тройцы (кляштара дамініканаў), перароблены ў 1830 г. у праваслаўную царкву.

**Снежань**
**14**
**серада**

70 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Данько**, беларускага службоўца органаў унутраных спраў, генерал-лейтэнанта, заслужанага работніка міліцыі Беларусі. З в. Сэрвач (Карэліцкі р-н).

**Снежань**
**15**
**чацвер**

175 гадоў з дня нараджэння **Валерыя Урублеўскага**, аднаго з кіраўнікоў паўстання супраць Расіі ў 1863 – 64 гг., дзеяча міжнароднага рэвалюцыйнага руху. З мяст. Жалудок (Шчучынскі р-н). Памёр у 1908 г.

90 гадоў з дня нараджэння **Сцяпана Александровіча**, беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара. У 1944 – 1953 гг. настаўнічаў у Наваельні (Дзятлаўскі р-н), Навагрудку. Памёр у 1986 г.

**Снежань**
**16**
**пятніца**

110 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Марцінчыка**, дзеяча вызваленча-культурнага руху ў Заходняй Беларусі. З в. Кубельнікі (Бераставіцкі р-н). Памёр у 1980 г.

**Снежань**
**17**
**субота**

85 гадоў таму назад у в. **Каўшы** (Мастоўскі р-н) ставілася драма Я.Купалы “Раскіданае гняздо”.

**Снежань**
**18**
**нядзеля**

145 гадоў таму назад пабудавана ў **Карэлічах** Свята-Петрапаўлаўская царква.

**Снежань**
**19**
**панядзелак**

55 гадоў таму назад выйшаў у **Гродне** 1-ы выпуск літаратурнага альманаха “Нёман”.

**Снежань**
**20**
**аўторак**

220 гадоў таму назад пачаў дзейнічаць у **Гродне** прыдворны тэатр.

**Снежань**
**21**
**серада**

135 гадоў таму назад пабудавана ў в. **Ятвеск** (Шчучынскі р-н) Свята-Пакроўская царква.

**Снежань**
**22**
**чацвер**

85 гадоў з дня нараджэння **Яўгеніі Рассудоўскай**, беларускага педагога-харэографа, заслужанай настаўніцы Беларусі. Працавала ў Гродне ў 1961 – 2004 гг.

**Снежань**
**23**
**пятніца**

215 гадоў з дня нараджэння **Віктара Гельтмана**, беларускага і польскага рэвалюцыянера, удзельніка паўстання супраць Расіі ў 1830 – 31 гг. Скончыў Свіслацкую гімназію. Памёр у 1874 г.

**Снежань**
**24**
**субота**

125 гадоў з дня нараджэння **Ноя Лур'е**, яўрэйскага пісьменніка. З мяст. Блошна (Слонімскі р-н). Памёр у 1960 г.

75 гадоў з дня нараджэння **Яніны Крывулькі**, заслужанага работніка прамысловасці Беларусі. З Мастоў.

**Снежань**
**25**
**нядзеля**

**Нараджэнне Хрыстова**
**Каляды (каталіцкія)**

75 гадоў з дня нараджэння **Ліліі Давідовіч**, беларускай артысткі тэатра і кіно, народнай артысткі Беларусі. З Гродна. Памерла ў 2002 г.

**Снежань**
**26**
**панядзелак**

435 гадоў таму назад пачалося ў **Гродне** будаўніцтва першай мураванай сінагогі.

**Снежань**
**27**
**аўторак**

110 гадоў з дня нараджэння **Антона Жэбрака**, беларускага вучонага ў галіне генетыкі, доктара біялагічных навук, прафесара, акадэміка Акадэміі навук БССР, заслужанага дзеяча навукі Беларусі. З в. Збляны (Зэльвенскі р-н). Памёр у 1965 г.

**Снежань**
**28**
**серада**

525 гадоў таму назад **Масты** ўпершыню ўпамінаюцца ў пісьмовых крыніцах.

**Снежань**
**29**
**чацвер**

130 гадоў з дня нараджэння **Іосіфа Яшунскага**, яўрэйскага пісьменніка. З Гродна. Загінуў у 1943 г.

115 гадоў з дня нараджэння **Юліі Бібілы**, беларускай культурнай дзяячкі, бібліёграфа. З мяст. Поразава (Свіслацкі р-н). Памерла ў 1974 г.

**Снежань**
**30**
**пятніца**

100 гадоў з дня нараджэння **Лідзіі Ялоўчык**, беларускай пісьменніцы, педагога. З в. Марцянаўцы (Ваўкавыскі р-н). Памерла ў 1999 г.

**Снежань**
**31**
**субота**

**З Новым годам!**